ныя заслугі, аднак даўно ўжо іх перакрэсьліў сваей безхрабётнай палітыкай і асабліва, чаго яму маладая Беларусь і па сьмерці не даруе, сваім апошнім, славутным вызнаньнем — „polak-białorusin“. З другога боку, з усяе дзейнасьці гэтае групы адразу кідалася ў вочы тое, што яна ня мела акрэсьленае праграмы, ня была здольнай на стварэньне нават найменшых пазытыўных вартасьцяў, ці то для справы беларускага адраджэньня, ці то ўрэшце для справы беларуска-польскага сужыцьця. Уся яе дзеяльнасьць зводзілася да звычайнага разьбіўніцтва кожнага незалежніцкага імкненьня, да безаглядных лаянак сваіх праціўнікаў, да дзяціннага самахвальства і самаадарацы, да дурманеньня беларусаў і палякоў вельмі плыткімі ды яшчэ больш пустымі наперадаўскімі радыкалізмамі і цэнтрасаюзнымі бутафорыямі. Зразумела, што ўся гэная бязідэйнасьць не магла вытварыць нутраное спайкі ў гэтай групе, не магла ёй даць і маральнага крэдыту з боку тутэйшага беларускага грамадзянства і народных масаў. Вельмі характэрна, што А. Луцкевіч і яго адваліўшыйся дыктатарскі штаб, калі верыць ходзячым чуткам, сяньня ўжо намагаецца навязаць зносіны з яшчэ так нядаўна і безаглядна ім змаганым літвафільствам. І з гэтага таксама бачым, што як далёка гэныя людзі стаялі ад ідэйнага разуменьня сваей учарашняй дзейнасьці.

Канчаючы, трэба сьцьвердзіць, што першыя крокі навонкавай дзейнасьці сяньняшняй групы Р. Астроўскага выказалі пэўны здаровы зрух у кірунку ідэйнага разуменьня свайго назначэньня. Можна заўважыць, што гэная група хоць можа сяньня здавалася бы і стаіць яшчэ на бездарожжы, аднак ужо зусім выразна накіроўваецца на шлях пазытыўнае працы. Можна быць ворагам Р. Астроўскага, але, гаворучы аб'ектыўна, трэба прызнаць яго арганізацыйныя здольнасьці і працаздольнасьць. А прыняўшы гэта пад увагу, можна сьмела сказаць, што перамога групы Р. Астроўскага залежыць выключна ад яе самой. Трэба толькі — адкрыта і ідэйна падыйсьці да прадузятай справы, палянафільства павінна стацца чэснай і пазытыўнай працай, і напэўна гэткім шляхам асягнуцца відавочныя карысьці і для справы беларускага адраджэньня, і для справы ідэйнага набліжэньня народаў беларускага і польскага.

---

# Праспэкт Завочных Курсаў

**дзеля арганізацыі збору мядова-лекарскіх зёлак, ладжаных Беларускім Каапэратыўным Таварыствам „ПЧАЛА“ Wilno, Królewska 3-8.**

**Мэта курсаў**. Завочны курс дзеля арганізацыі збору мядова-лекарскіх зёлак мае на мэце даць адпаведную веду тым людзям, асабліва спаміж нашай вясковай безработнай інтэлігэнцыі, якія выкарыстоўваньнем дзіка растучых лекарскіх зёлак хацелі-б палепшыць свой быт і быт бяднейшых сялян сваей ваколіцы.

**Час навукі** разьлічаецца на 3 тыдні. Праграма абымае 9 лекцыяў, якія будуць высылацца раз у тыдзень партыямі па 3 лекцыі ў кожнай.

**Плата.** Навука бясплатная, толькі як зварот друку, паперы і паштовых расходаў кожны з курсантаў павінен унясьці 3 залатоўкі за ўвесь час трываньня курсаў.

## Падрабязная праграма.

**1-я лекцыя.**

1) Гісторыя ўжываньня зёлак у лячэньні.
2) Прылады да зьбіраньня зёлак.
3) Пара і спосабы зьбіраньня паасобных частак расьціны.

**2-я лекцыя.**

1) Арганізацыя зборных пунктаў.
2) Прылады да сушэньня.
3) Спосабы сушэньня.

**3-я лекцыя.**

1) Перахоўваньне сухіх зёлак.
2) Перасылка.
3) Варункі аплатнасьці.

**4, 5, 6, 7, 8 і 9-я лекцыі**

абымуць падрабязныя апісаньні зёлак найбольш у нас спатыканых і маючых найбольшае запатрэбаваньне ў гандлі.

*Кіраўніцтва курсаў.*

---

# Апошнія весткі.

Маскоўскі карэспандэнт расейскай-эміграцкай часопісі „Сацыялістычны Вестнік“ піша, што ў Саветах пачалі распашырацца варожыя Марксу настроі. У савецкіх публічных інстытуцыях штораз менш вывешываюцца яго партрэты а нават часта дэманстрацыйна зьнімаюцца. Вялікай папулярнасьцю, а хутчэй прымусовасьцю, карыстаюцца партрэты Сталіна і Варашылава.

——

Апошнімі часамі Японія пачала завіхацца каля Кітаю, намагаючыся ўтварыць агульнаазыятыцкі саюз пад поклічам „Азыя для азыятаў“. Дзеля таго, што гэтаму супрацьстаўляецца чырвоная Масква, Японія пачала навязываць больш блізкую лучнасьць з Турцыяй, Нямеччынай і Польшчай, каб гэткім чынам акружыць Маскоўшчыну. Чырвоныя палітыкі перапалоханы гэтым не на жарты, тым больш, што ім не ўдалося паразумецца з Амэрыкай, якая ўбачыўшы магутнасьць Японіі, пачынае свае адносіны да яе зьмяняць.

——

У Амэрыцы арыштаваны прадстаўнік чырвонамаскоўскага Амторгу (установа гандлю з Амэрыкай) жыд — Буртон, якога абвінавачываюць у выпуску фальшывых грошаў на агульную суму 100 тысяч даляраў. Буртон да віны прызнаўся.

——

Уначы з 15 на 16 траўня ў цэлай Латвіі абвешчана ваеннае палажэньне, якое мае трываць шэсьць месяцаў. Гэты крок латвійскага ўраду быў выкліканы, у першую чаргу, намаганьнем латвійскіх нацыяналістаў правесьці дзяржаўны пераварот і захапіць у свае рукі ўладу. Латвійскія нацыяналісты, у склад каторых уваходзяць былыя жаўнеры вызваленьня Латвіі, карыстаюцца шырокай папулярнасьцю і падтрыманьнем усіх слаёў насельніцтва не выключаючы нават і сучаснай арміі. Нацыяналісты імкнуцца да ачысткі Латвіі ад розных „чырвоных“ уплываў і разьвіўшагася партыйніцтва, супроць чаго латвійскі ўрад дагэтуль ня мог заняць належнага становішча. У сувязі з абвешчаньнем ваеннага палажэньня па ўсей Латвіі адбыліся масавыя арышты і рэвізыі, падчас якіх знойдзена было шмат аружжа, спынена выдавецтва блізу 20 газэт. Трэба думаць, што і пры ўсім гэтым сучасны ўрад латвійскі доўга няўтрымаецца.

——

Вызвольна самастойніцкі рух захапіў сабой і народ арабскі. Трэба ведаць, што дагэтуль Арабія была падзелена на некалькі частак быццам і самастойных, аднак усё-цэла залежных ад Англіі, якая гэныя распадзелы штучна падтрымлівала, цягнучы з гэтага вялікія матэрыяльныя карысьці. Зразумеўшы, урэшце, у чым крыюцца прычыны паняволеньня ды вызыску, народ арабскі апошнімі часамі прыступіў да аружнае барацьбы за злучэньне і самастойнасьць сваіх зямель. На чале ўсяго гэнага руху стаіць вялікі арабскі павадыр і нацыяналіст Ібн Сауд з племям Вагабітаў, найбольш нацыяналістычна настроенай часткай арабскага народу. Ібн Сауд ужо здабыў некалькі гарадоў і таму трэба думаць, што рана ці позна, але Арабія ўрэшце здабудзе і сваю поўную непадзельнасьць ды незалежнасьць.

——

У Лінцэне (Аўстрыя) адбылася ў чэсьць аўстрыйскага канцлера Дольфуса бурная маніфэстацыя 60 тысяч сялян. Дольфус сказаў вялікую прамову, у якой зазначыў, што пасьля таго, як ён разагнаў чырвонамаскоўскіх агэнтаў і даў належны адпор нямецкаму захопніцтву, гаспадарчы стан Аўстрыі куды палепшыўся, адных толькі безработных зьменшылася на сто тысяч чалавек.

——

У межах сяньняшняе Чэхаславаччыны пражывае і народ славацкі, маючый сваю собскую мінуўшчыну і культурную самастойнасьць. Славакі ўвесь час дамагаюцца для сябе палітычна-культурнай аўтаноміі, рашуча супрацьстаўляецца чаму чэхаславацкі ўрад. У сувязі з гэнымі дамаганьнямі ў палове траўня ў чэскім ўнівэрсытэце (Браціслава) студэнты славакі выклікалі вялікія забурэньні, зьліквідаваныя толькі пры памачы паліцыі.

---

# ХРОНІКА

**Лекцыя праф. Галкоўскага.** 5.V.34 у залі беларускае гімназіі ў Вільні праф. Галкоўскі прачытаў у беларускай мове лекцыю аб Ст. Манюшцы, вялікім песьняру, які выйшаў з нетраў нашага народу. Лекцыя ілюстравалася выступленьнямі салістаў і сьветлавымі абразамі. Пяялі гр. гр. Рэўкоўскі (барытон), Плееўская (сапрана), Цумфт (раяль) і Тэльмашэўскі (віалёнчэля), акампаньяваў салістам сам праф. Галкоўскі.

**Лекцыя Т-ва Беларусаведы.** 6 V.34 г. У Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы адбылася чарговая навуковая зборка, на якой гр. М. Мілючанка прачытала лекцыю на тэму: „Справа Сьвідрыгайлы ў сьвятле гістарычнай літэратуры“.

**Угодкі сьмерці К. Сваяка.** 7. V. 34 г. прыпадалі 8-мыя ўгодкі сьмерці Казімера Сваяка, ведамага беларускага паэты. З нагоды гэтага ў касьцеле сьв. Міколы адбылося хаўтурнае набажэнства, на якое зыйшлося шмат нашага грамадзянства.

**Сход Бел. Дабрадзейнага Т-ва.** У суботу 26 траўня адбыўся чарговы гадавы сход Бел. Дабрадзейнага Таварыства.

**Лекцыя ў Віл. Ад. БІГіК.** 12. V 34 у памешканьні Бел. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры абс. М. Пяцюкевіч прачытаў лекцыю на тэму: „Адам Гурыновіч як беларускі этнаграф“.

**Прыймо ў Віл. Бел. Гімназію.** Беларуская Дзяржаўная Гімназія ў Вільні распачала прыймо заяваў ад жадаючых паступіць у гімназію вясною. Экзамены ўва ўсе клясы адбудуцца 15 і 16 чэрвеня с. г. Пры гімназіі ёсьць інтэрнаты для хлапцоў і дзяўчат. Адрас гімназіі—Wilno, Ostrobramska 9.

**Камісія Помачы Галадаючым.** У Вільні ўтварылася Камісія Помачы Галадаючым Беларусам пры Рэдакцыі. „Самапомачы“ (Wilno Połocka 4-10) Камісія гэная мае да распадзелу сярод галадаючых беларусаў 2500 зал. Просьбы аб дапамозе мусяць быць зложаны не пазьней як да 3 чэрвеня с. г. Пасьведчаньне аб незаможнасьці павінна быць зроблена якой колечы беларускай арганізацыяй, або асобай ведамай з карыснай працы для Беларусаў.

**Ахвяры для Бел. Гімназіі.** На карысьць незаможных вучняў Віленскай Беларускай Гімназіі былі апошнімі днямі зложаны наступныя ахвяры: п. Віленскі Ваявода—1.000 зал., Яго Найасьвяшчонства Архіеп. Хвядос—20 зал., пасол Ярэміч — 50 зал., гр. гр. І. Галяк—10 зал., Я. Бэкіш—10 зал., Т. Вернікоўскі—3,50 зал., Ф. Умястоўскі — 2 зал., М. Сенкевіч — 2 зал., Э. Будзька—2 зал.

**Гадавы сход БНК.** 23-га траўня 34 г. адбыўся гадавы сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні. Нававыбраны Урад Камітэту складаецца з наступных асоб: старшыня—Я. Пазьняк, І віцэ-старшыня—В. Багдановіч, ІІ віцэ-старшыня—М. Манцевіч, сэкрэтар—Ул. Казлоўскі і скарбнік — А. Клімовіч.

**Матура ў Віленскай Беларускай Гімназіі.** Учора 25 V г. г. адбыолся паседжаньне Пэд. Рады ў справе дапушчэньня вучняў VIII кл. да матуральных экзаменаў, якія пачнуцца 4 чэрвеня г. г.

Лік вучняў VIII кл.—24 асобы.

---

# АДКАЗЫ.

*„Беларуская Школа“, Латвія.* Абяцанага дагэтуль не атрымалі. Ліст высылаем адначасна.

*„Iskry Skaryny“ Чэхаславаччына.* Скіравалі, пасылаем.

---

# Ад Рэдакцыі.

З прычын тэхнічных Рэдакцыя не змагла зьмясьціць у гэным нумары артыкулы:

1. Агляд замежных беларускіх часопісяў („Іскры Скарыны“—Чэхаславаччына і „Gudu Centras—Беларускі Асяродак“—Літва).

2. Агляд шляхоў барацьбы беларускага руху ў Літве.

Пералічаныя артыкулы Рэдакцыяй прыняты і будуць зьмешчаны ў наступным нумары.

---

**Ад адміністрацыі.**

**Просім нашых чытачоў аплаціць належную плату прынамсі за 5 нумароў наперад. У праціўным выпадку наступны нумар атрымаюць толькі тыя, хто аплоціць.**

Рэдактар-Выдавец **С. Сарока.**

Друк. Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22.